ТЭЛЕПРАГРАМА НА ТЫДЗЕНЬ

# Народная Воля

№22 (1835)

Субота, 7 лютага 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец:
УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +2...+4, дождж, уначы — 0...+2, снег; у Брэсце ўдзень — +7...+9, уначы — +3...+5, на працягу сутак — дождж; у Гродне ўдзень — +6...+8, уначы — +1...+3, на працягу сутак — дождж; у Віцебску ўдзень — -1...+1, дождж, уначы — -1...+1, снег; у Гомелі ўдзень — 0...+2, уначы — +3...+5, на працягу сутак — дождж; у Магілёве ўдзень — -1...+1, дождж, уначы — -1...+1, без ападкаў.

*www.meteo.by*



ПУЛЬС

## У МВФ мяркуюць, што ў Беларусі няма перадумоў для дасягнення сёлета 10-працэнтнага росту ВУП

У МВФ мяркуюць, што ў Беларусі няма перадумоў для дасягнення ў 2004 годзе 10-працэнтнага росту валавага ўнутранага прадукту. Пра гэта заявіў кіраўнік місіі Міжнароднага валютнага фонду ў Беларусі Томас Рычардсан 6 лютага падчас сустрэчы са старшынёй Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Вадзімам Паповым.

Прадстаўнікі МВФ знаходзяцца ў Беларусі з 26 студзеня па 9 лютага з мэтай правядзення штогадовых планавых кансультацый з прадстаўнікамі ўрада і Нацыянальнага банка для падрыхтоўкі справаздачы аб макраэканамічнай сітуацыі ў краіне.

"Мы б віталі 9-10-працэнтны эканамічны рост, калі б гэта магло адбыцца, — сказаў Т.Рычардсан, — але мы не верым, што такое магчыма". Т.Рычардсан адзначыў, што МВФ "незразумела, як выпрацоўваюцца макраэканамічныя прагнозы". "Эканоміка можа быць або планавай, або рынчнай. Калі яна рынкавая, то прагназаваць эканамічны рост немагчыма, гэта ўсё роўна што прагназаваць надвор'е", — заявіў прадстаўнік фонду.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Вызначыліся тэрміны пачатку беларускай экспедыцыі на Аляску

Як паведаміў БелаПАН кіраўнік Беларускага фонду падтрымкі экстрэмальных экспедыцый "Полюс" Уладзімір Драбо, выезд з Мінска ў Маскву намечаны на 20 лютага. Адтуль на рэйсавым самалёце палярнікі паляцяць у Якуцк. Падарожнікі адправяцца да месца старту свайго пераходу асобна ад тэхнікі. Усюдыходы паедуць у Якуцію па чыгунцы. Іх пагрузка ў вагоны пачнецца 10-11 лютага.

Другі этап "Палярнага кальца" ажыццяўляе фонд "Полюс". 6 беларускіх палярнікаў на двух пнеўматычных усюдыходах уласнай канструкцыі маюць намер з паўночна-ўсходняга ўзбярэжжа Расіі перасячы Берынгаў праліў і прайсці па арктычным узбярэжжы Аляскі і Канады.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## У таленавітых спартсменаў патаўсцеюць гаманцы

Рашэнне аб выплаце імянных штомесячных стыпендый 20 найбольш таленавітым спартсменам прынята Мінгарвыканкамам сталіцы.

Па інфармацыі агенцтва БелаПАН, памеры стыпендый ад 10 да 30 базавых велічынь (ад 175.000 да 525.000 рублёў). Стыпендыі будуць выплачвацца са сродкаў пазабюджэтнага фонду Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў са студзеня па жнівень бягучага года.

Сярод атрымальнікаў стыпендый чэмпіён Еўропы па спартыўнай гімнастыцы **Аляксандр Ігнатовіч**, чэмпіён Еўропы па дзюдо **Дзяніс Кунцэвіч**, чэмпіёнка Еўропы па лёгкай атлетыцы **Наталля Харанека**, **Канстанцін Шчарбак** — чэмпіён свету па грэблі на байдарках і каноэ. Акрамя названых спартсменаў, стыпендыі атрымаюць прызёры чэмпіянатаў свету і Еўропы ў розных відах спорту.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Выбухнула дык выбухнула...

У выніку выбуху патрона пацярпелі два вучні 9-га класа адной са школ Баранавічаў.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе УУС, вечарам 4 лютага з кватэры па вуліцы 50 гадоў ВЛКСМ у гарадскую бальніцу былі дастаўлены два школьнікі — 1988 і 1989 гадоў нараджэння. У аднаго з іх урачы канстатавалі пранікальныя раненні правага бядра, левага перадплечча і пляча, у другога — асколачныя раненні лба, левага пляча і цемяннай вобласці.

Падлеткі расказалі, што пацярпелі ў выніку выбуху патрона буйнакаліібернага кулямёта. З дапамогай электрадрэлі яны спрабавалі дастаць з патрона выбуховае рэчыва. Боепрыпас, паводле іх слоў, знайшлі на аэрадроме.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## На службу у рэзерве

Як стала вядома БелаПАН, першы прызыў на службу ў рэзерве плануецца правесці ў сярэдзіне гэтага года.

Новы від службы — у рэзерве Узброеных сіл — устаноўлены Законам Рэспублікі Беларусь "Аб вайсковым абавязку і вайсковай службе". Рэзервісты будуць праходзіць службу ў рэзерве ў вайсковых часцях або іншых арганізацыях Міністэрства абароны з прыцягненнем іх на заняткі і вучэбныя зборы, па вучэбных праграмах, без спынення працоўнай дзейнасці.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

ТЕРРОРИЗМ!

# Взрыв в московском метро

*Взрыв произошел вчера, 6 февраля, около 8.30 во втором вагоне поезда между станциями "Павелецкая" и "Автозаводская". Сразу после взрыва в тоннеле начался пожар, которому была присвоена высшая категория сложности. По данным примерно на 10.30, пожар удалось потушить, однако станции метро и перегон были сильно задымлены.*





Взрыв произошел в 500 метрах от станции. Поезд продолжал двигаться еще несколько метров. По предварительным данным, мощность взрывного устройства соответствовала килограмму тротила. По данным Интерфакса, к месту происшествия приехало много машин скорой помощи, а также пожарные. Пострадало много людей, помощь оказывалась как под землей, так и на поверхности. "Там целый вагон пострадавших", — сказал один из спасателей корреспонденту НТВ. Движение поездов по Замоскворецкой линии было остановлено.

По факту взрыва возбуждено уголовное дело по статье 25 (терроризм) и 105 УК РФ (умышленное убийство). По данным правоохранительных органов Москвы, взрыв устроил террорист-смертник. Раненые направлены в пять московских больниц. В частности, их приняли 1-я, 7-я, 13-я городские больницы, а также Институт Склифосовского.

ЮБІЛЕЙ

## Няхай слёзы ў вашых вачах, Ульяна Рыгораўна, будуць напамінам тым, хто адказны за лёс вашага сына...

Учора споўнілася 80 гадоў маці былога міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі Ульяне Рыгораўне. Нагадаем, што Юры Захаранка працаваў міністрам у першыя гады праўлення Лукашэнкі. Менавіта ён першы з высокіх дзяржаўных чыноўнікаў пры лукашэнкаўскай уладзе даў зразумець "маладому прэзідэнту", што будзе, перш за ўсё, кіравацца Канстытуцыяй, а потым ужо — указамі прэзідэнта. Менавіта ён першы сказаў Лукашэнку, што, калі яго загад будзе пярэчыць Канстытуцыі, ён яго не будзе выконваць...

7 мая 1999 года Юры Захаранка быў скрадзены непадалёк ад свайго дома ў Мінску. Да гэтага дня яго лёс канчаткова невядомы...



Ульяна Рыгораўна жыве адна ў невялічкай хаце ў гарадскім пасёлку Васілевічы Гомельскай вобласці. Незадоўга да знікнення сына Юрыя раптоўна памерлі яе муж і старэйшы сын. Раз-пораз наведваюць маці былога міністра суседзі, прадстаўнікі Аб'яднанай грамадзянскай партыі і недзяржаўных арганізацый. Раней часцяком да Ульяны Рыгораўны прыязджаў Уладзімір Кармілкін (цяпер нябожчык). У гэтыя дні Васілевічы наведвае — Васіль Шлындзікаў, які падтрымліваў цёплыя адносіны з Юрыем Захаранкам.

Кажуць, што Ульяна Рыгораўна выпісвае толькі адну газету — "Народную волю", учытваецца ў кожнае яе слова, ці не напісана нешта пра яе Юрачку? І плача... Але верыць усё ж такі, што ён жывы. Таму і вісіць у яе сціплай прыхожай міліцэйскі бушлат генерала Юрыя Захаранкі.

З юбілеем Вас, паважаная Ульяна Рыгораўна! Няхай слёзы ў Вашых вачах будуць напамінам тым, хто адказны за лёс Вашага сына, але яшчэ не прадстаў ні перад судом зямным, ні перад судом Вышэйшым. Жывіце доўга!

**Алесь СІЛІЧ.**

ЭКСКЛЮЗИВ

# Поехали!

*Вчера в Минске стартовал матч 1/8 финала Кубка Дэвиса между сборными Беларуси и России.*

Перед игрой первый номер нашей сборной **Максим МИРНЫЙ** ответил на пару вопросов корреспондента "Народной воли".

**— Максим, капитан сборной России Шамиль Тарпищев вначале заявил журналистам, что финалист Открытого чемпионата Австралии Марат Сафин, возможно, вообще не будет играть из-за усталости, а затем выставил его в состав, а затем еще и определил первым номером команды молодого Игоря Андреева. Это что, хитрый тактический ход?**

— Я могу сказать, что такие турниры, как Открытый чемпионат Австралии, на самом деле сильно изматывают. В воскресенье Сафин еще играл на другом континенте, и путь, который он проделал из Австралии, составляет более двух дней. Поэтому, естественно, неизвестно, в какой Марат был форме. Но если он приехал и изъявил желание играть, то капитан, конечно же, поставил его без всяких раздумий. Что касается первого номера Андреева, то можно ведь заменить любого игрока за час до матча. На корт может выйти любой другой российский теннисист.

**— У Вас процесс акклиматизации прошел нормально?**

— Это всегда довольно тяжело. Но я приехал сюда на несколько дней раньше Марата, а поэтому у меня времени быстрее акклиматизироваться и привыкнуть к нашим зимним условиям было больше.

**— Белорусские теннисисты живут не вместе в гостинице, а каждый у себя дома. Это помогает?**

— Да, так мы уже делали на протяжении многих лет и при этом показывали хорошие результаты в домашних матчах. Нет причины менять победную формулу.

**— Дома и кормят, наверное, получше...**

— И это тоже. К тому же грех упускать редкую возможность побыть в кругу семьи.

**— Какой день из трех, на Ваш взгляд, будет самым трудным для нашей команды?**

— Первый, второй и третий.

**Алесь СИВЫЙ.**



## Новым тварам кампаніі Velcom стаў Максім Мірны

Вядомы беларускі тэнісіст Максім Мірны стаў тварам кампаніі Velcom у 2004 годзе. Як паведамляе прэс-служба кампаніі, на працягу года тэнісіст будзе з'яўляцца на рэкламных шчытах, у газетных інтэрв'ю і тэлевізійных роліках найбуйнейшага аператара сотавай сувязі стандарта GSM у Беларусі.

Нагадаем, што ў выніковым рэйтынгу Асацыяцыі тэнісістаў-прафесіяналаў за 2003 год Максім Мірны апынуўся на 23-м месцы — гэта лепшы вынік сярод тэнісістаў на постсавецкай прасторы. Ён таксама ўвайшоў у дзесятку лепшых спартсменаў Беларусі, якую па выніках апытання спартыўных журналістаў вызначылі Нацыянальны алімпійскі камітэт і газета "Спортивная панорама".

Цяпер М.Мірны знаходзіцца ў Мінску. Ён возьме ўдзел у матчы Сусветнай групы Кубка Дэвіса супраць каманды Расіі, які пройдзе ў сталіцы Беларусі з 6 па 8 лютага.

**Аляксей АРЭШКА.**

# Да здравствует Кубок имени товарища Дэвиса!

**Александр КЛАСКОВСКИЙ**

Матч на кубок Дэвиса и открытие горнолыжной трассы под Логойском вызвали в стране настоящее цунами казенной околоспортивной эйфории. Теннис и лыжи заполонили эфир и прессу. Комментаторы наперебой рисуют светлые перспективы Беларуси в свете упомянутых событий.

Зря, мол, недруги фигурально бросали камни в главу державы за транжирство денег на ледовые дворцы etc. Теперь вот приходит время пожинать плоды. В страну, привлеченные масштабом состязаний и роскошью спортивных арен, хлынут богатые иностранцы, соря здесь валютой, имидж Беларуси неузнаваемо облагородится, и страна, подобно какому-нибудь азиатскому тигру, выпрыгнет из третьеразрядных в мировую элиту.

Временами это уже напоминает хрестоматийную лекцию Остапа Бендера в Васюках.

**"— Да! — кричал он. — Шахматы обогащают страну! Если вы согласитесь на мой проект, то спускаться из города на пристань вы будете по мраморным лестницам! Васюки станут центром десяти губерний!.. Сотни тысяч людей, богато обеспеченных людей, будут стремиться в Васюки... Отсюда вытекает аэропорт "Большие Васюки" — регулярное отправление почтовых самолетов и дирижаблей во все концы света, включая Лос-Анжелос и Мельбурн!".** Ну и так далее по тексту.

Инициаторам и исполнителям данной пропагандистской кампании явно изменило чувство меры. Они даже не улавливают, что в самом этом натужном бахвальстве — вот, и мы сподобились принимать этот, как его, кубок имени товарища Дэвиса! — сквозит синдром провинциальности. А главное — телега ставится впереди лошади. Опять же, вспоминая Ильфа и Петрова: "Ударим автопробегом по бездорожью и разгильдяйству!". Хотя ежику понятно, что сначала надо сделать хорошие дороги...

Речь не о том, что пока мы не купаемся в роскоши, то к черту всякое там фигурное катание на крытых катках и давайте все деньги пустим на жратву. Такой угрюмо-утилитарный подход к многообразию человеческой жизни тоже не вызывает симпатии. И, к слову, можно понять раздражение государственного руководства, когда политические оппоненты прямолинейно противопоставляют нужды народа великолепию спортивных и прочих монументальных сооружений. И дворцы спорта, и комфортабельный столичный вокзал, и приличная национальная библиотека — все это тоже важно для цивилизованного имиджа пусть себе и небогатой, но уважающей себя культурной европейской страны.

Вопрос в другом. Можно построить хоть сто библиотек в форме алмаза, но имидж страны не засверкает алмазными гранями, пока власти будут как огня бояться имени Василя Быкова и стоять стеной на пути тех, кто предлагает переименовать в его честь какой-нибудь Второй коммунистический тупик. Можно провести сто масштабных турниров и вложить много миллионов в накачку олимпийских мускулов — но репутация страны останется той же, мягко говоря — оставляющей желать лучшего, пока здесь будут нецивилизованно обходиться с элементарными принципами демократии и правами человека.

К слову, в истории было уже немало попыток через блеск спортивных наград, через трату колоссальных средств на подготовку команд мирового класса поднять престиж политического режима. Увы, все оказывалось тщетно. Оставим без комментария — тьфу-тьфу! — Олимпиаду 1936 года в Берлине. Но вот, например, сколько бы знаменитых в мировом боксе физиономий ни разбивали на очередном первенстве могучие кубинские парни — все равно на планете понимали, что "остров Свободы" не более соответствует этой пропагандистской метафоре, чем министерство правды в антиутопии Оруэлла. Сколь ни блистали в свое время пловцы и легкоатлеты ГДР — страны-витрины мирового социализма — все равно мир знал, что восточные немцы под пулями бегут из своего фальшивого рая через Берлинскую стену. Наконец, в Северной Корее граждане поголовно делают по утрам зарядку — но кто верит, что в Стране утренней свежести царит гармоничный образ жизни?

...Тем временем белорусские СМИ с упоением рассказывают о правилах поведения на матчах Кубка Дэвиса, предусмотрительно напечатанных на обратной стороне билетов. Железные, надо сказать правила. Диапазон пунктов — от добровольного согласия на личный досмотр до запрета вести политическую деятельность на территории спортивного объекта. Мечта властей! Остается только объявить зоной проведения кубка Дэвиса всю страну. На все времена. И поставить на главной площади монумент товарищу Дэвису с серебряной салатницей.

### Штрих к теме

**Кубок Дэвиса вот уже более ста лет является основным командным соревнованием в мировом мужском теннисе. Наградой победителю становится великолепный серебряный кубок — Davis Cup trophy, пожертвованный, организаторам первого матча в 1900 году студентом Гарвардского университета Дуайтом Дэвисом. Кубок состоит из трех частей — серебряной салатницы и двух деревянных основ. Полный вес Davis Cup trophy — 70 кг.**

*("Белорусские новости".)*

SOS!

# Беловежская наука в огне

В Беловежской пуще очередное ЧП. Под огнем, в прямом смысле слова, оказались уникальная научная библиотека и архив, которые собирались в течение 60 лет несколькими поколениями ученых и управленцев. Библиотека содержит 12.000 наименований книг. Среди них много уникальных изданий, выпущенных еще в начале прошлого века. Большое количество специализированной литературы по различным отраслям охраны природы, биологии, лесоведения и почвоведения. Более 10.000 научных журналов. Там же хранятся отчеты научных исследований, проводимых с послевоенного периода, а также хозяйственная документация (бухгалтерский архив), где находятся документы постоянного срока хранения. Ранее библиотека и архив размещались в отдельном помещении лабораторного корпуса, построенного в 70-е годы для научного отдела. Условия хранения книжного фонда соответствовали правилам и нормам. В этом здании располагались также администрация и управление вначале заповедно-охотничьего хозяйства, а с 1991 года — нацпарка. Наука и хозяйственные отделы мирно сосуществовали в этом здании на протяжении 30 лет.

Однако год назад нынешнее руководство Национального парка "Беловежская пуща", возглавляемое гендиректором Николаем Бамбизой, неожиданно посчитало, что такая многолетняя "идиллия" экономически не выгодна, а значит, не нужна. Было решено выселить всех из этого здания, а его перестроить под очередную гостиницу. Видите ли, уже имеющихся в парке четырех гостиниц недостаточно для ожидающегося в ближайшее время массового наплыва иностранцев в пущу, которые таким образом должны принести в казну много валюты. Ну что ж, дело благородное, инвестиции в государственную казну нужны. Правда, экономических расчетов и научного прогноза такого вот "наплыва богатых буржуев" что-то до сих пор не видно и не слышно. Никто из администрации парка почему-то не вспоминает, что эти четыре гостиницы полупусты большую часть года. Ах, уточним, — три гостиницы. Так как одна (на 100 мест) заполнена бригадами временных наемных рабочих из других регионов, которыми массово заменили местных работников. Тем самым создали невиданную в прилегающей к местности ранее безработицу и серьезно ухудшили криминогенную обстановку.

Итак, в ноябре 2003 года все службы парка и научный отдел в "пожарном" порядке выселили на промзону, где расположен лесозавод. Науку разместили в слабо приспособленных для научных целей помещениях автомастерских. Хотя дирекция и обещала членам парламентской комиссии, что приезжали летом в пущу, не трогать библиотеку и архив, но видно предвкушаемый хруст "зеленых" оказался сильнее. В итоге и их удалили из здания и разместили ... над котельной.

Помещение и условия хранения бесценного библиотечного фонда не соответствовали ни правилам, ни здравому смыслу. Ведь внизу — котел с горящими дровами (!). Еще два месяца назад один из авторов публикации на интернет-сайте "Беловежская пуща — XXI век" сделал предсказание финала и оказалось — как в воду глядел.

В полдень 30 января в пуще произошел очередной пожар — загорелись деревянные конструкции на крыше этой котельной (в предыдущий раз, 27 октября 2003 г., сгорело лесопильное оборудование). Слава Богу, пожарным удалось потушить пожар и предотвратить непоправимую беду. Но при тушении потоки грязной воды, перемешанной с сажей, копотью и смолой, сделали свое черное дело. Примерно четверть библиотечного фонда оказалась залитой водой. Многие книги покрылись смолой. К счастью, большой гербарий научные сотрудники разместили возле себя. Иначе ущерб был бы значительнее. Лет десять назад в Березинском заповеднике по причине неисправности электропроводки сгорела вся библиотека. Сотрудники заповедника до сих пор помнят, какую потерю они понесли. Если, например, по халатности сожженный Несвижский замок все-таки можно восстановить, затратив на это солидную сумму денег, то как восстановить тысячи сгоревших ценных книг? Но самое удивительное в этой истории, что даже после этого ЧП другое помещение для библиотеки пока не выделяется!

Таким образом, цепь природных и рукотворных катастроф и бедствий бесчисленной чередой продолжает преследовать несчастную Беловежскую пущу. И конца этой цепи не видно. Что же делать и как разорвать эту цепь? Будем смотреть на вещи



реально. Сегодня в стране есть только один человек, наделенный всеми полномочиями, который может это сделать — А.Лукашенко. Ведь Беловежская пуща находится в подчинении Управления делами президента.

Будучи не в состоянии далее смотреть, как в последние годы с невиданной скоростью рушится и уничтожается все то, что создавалось в Беловежской пуще несколькими поколениями, я обращаюсь к Александру Григорьевичу Лукашенко. Именно от Вас сегодня зависит дальнейшая судьба Беловежской пущи!

Польские короли, русские цари, советские генсеки ревностно берегли, а потому и сохранили Беловежскую пущу. Кто-нибудь может сказать, что все они были страстными охотниками, поэтому рассматривали пущу прежде всего как собственные охотничьи угодья. А белорусский президент, мол, не охотник, потому и прямых интересов в пуще не имеет, потому и кратковременно посещает ее пару раз в год. Оно-то так. Однако это — не оправдание позиции молчаливого и стороннего наблюдателя. Это же священный уголок белорусской природы! Нельзя же с таким безразличием отдавать его на откуп разного рода коммерсантам, лесопромышленникам и прочему временному и случайному люду!

В короткой заметке не перечислить всех нарушений и безобразий, происшедших за последние два года: несанкционированная Минприродой вырубка живых ельников в 2001 году; подпольная вырубка живого старого леса и деревьев-великанов в 2002 году; реконструкция старых и строительство новых водоемов без экологической экспертизы (в прямом ее понимании); вырубка эталонных научных площадей для многолетнего лесного мониторинга; экологически необоснованные массовые искусственные лесопосадки на охраняемой территории; десятки тысяч кубометров сгнившей и потерявшей качество древесины, брошенной в лесу после рубок; кадровый разгон в нацпарке; притеснения и гонения местного населения; хранение без соответствующих документов и разрешений боевого оружия и многое другое. В то время как лесозавод завален полугнилой низкосортной древесиной, наносящей экономические убытки парку, на лесопилки местных коммерсантов из пущи поставляется отборная, крупносортная, ценная и высококачественная древесина. И последние события — выселение науки из лабораторного корпуса и пожар на "котельной-библиотеке"!

*(Окончание на 2-й стр.)*



*Адпачынак у зімовым лесе.*

**Фота ByMedia.net**

## «На расійскім Першым канале падзеі ў Беларусі — закрытая тэма», — сцвярджае Павел Шарамет

Як паведаміў кіраўнік аддзела спецпраектаў ГРТ у інтэрв'ю БелаПАН, "у Першага канала такая стратэгія наконт Аляксандра Лукашэнкі, каб пра яго не расказваць ніяк". На думку журналіста, "было вельмі шмат канфліктаў і скандалаў вакол нашых супрацоўнікаў у Беларусі, таму лаяцца ніхто не хоча, а хваліць Лукашэнку няма за што".

Паводле слоў П.Шарамета, пакуль сітуацыя ў краіне не зменіцца, Першы канал, гаворачы пра Беларусь, будзе расказваць толькі аб нязначных, бытавых фактах.

Шарамет лічыць, што такая пазіцыя Першага канала ў дачыненні да Беларусі адрозніваецца ад пазіцыі іншых расійскіх тэлеканалаў, якія, паводле яго слоў, або спрабуюць "дамовіцца" з беларускімі ўладамі, або ідуць на адкрытую канфрантацыю. "Першы канал у гэтым пытанні займае нейтральную пазіцыю", — сказаў ён.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Мінскі гарадскі суд стаў на бок абвінавачанага

Мінскі гарадскі суд адмяніў рашэнне Ленінскага суда сталіцы ў дачыненні да актывіста незарэгістраванага праваабарончага цэнтра "Вясна" Уладзіміра Лабковіча.

29 кастрычніка У.Лабковіч быў аштрафаваны за непадпарадкаванне патрабаванням работнікаў міліцыі на суму 10 базавых велічыняў. Прычынай таму сталі падзеі, што адбыліся напярэдадні. 28 кастрычніка актывісты "Вясны" адмовіліся пакінуць будынак Вярхоўнага суда Беларусі, дзе было прынята рашэнне аб ліквідацыі іх грамадскага аб'яднання. Матэрыялы на актывістаў "Вясны" былі перададзены ў Ленінскі раённы суд. Суддзя Дзмітрый Жданок адмовіўся весці працэс над Лабковічам на беларускай мове, як гэтага патрабаваў апошні. Не прадастаўляўся абвінавачанаму і перакладчык.

У выніку рашэнне Ленінскага суда было абскарджана ў Мінгарсудзе. Суддзі вышэйзгаданай інстанцыі прызналі парушэнне працэсуальных норм у Ленінскім судзе і накіравалі справу Лабковіча для новага разгляду.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

СПОВЕДЗЬ

# Вяртанне страчанага шчасця

*У "Народнай волі" (№425 ад 23 снежня 2003 г.) была надрукавана мая споведзь "Нявеста без вэлюма". У ёй ішла размова аб тым, што ў маладосці дзеля мужчыны, які стаў маім мужам, я пакінула сваю маленькую дачушку, бо дзіця ён прызнаваць не хацеў. Праз шмат гадоў у аўтакатастрофе загінула мая другая дачка, якая нарадзілася ад гэтага чалавека і ўжо вырасла, выйшла замуж і была цяжарнай. А потым ад мяне пайшоў муж да другой, маладзейшай. Я засталася адна, вельмі хворая і бездапаможная.*

*Даведалася, што ў Маскве жыве мая Танечка, якую я некалі пакінула. Яна замужам, гадуе дачушак-блізнятак. Але яна мяне ненавідзіць...*

*На гэту публікацыю адгукнуўся іерэй Васіль Стрыжнёў, настаяцель Свята-Успенскай праваслаўнай царквы з г.п.Шаркаўшчына. Ён заклікаў маю дачку Танечку да прымірэння. Шчырае яму дзякуй! Хачу сказаць, што прымірэнне адбылося, што я цяпер самы шчаслівы чалавек на свеце. Пасля стольскіх пакут засвяціла сонца і ў маё аконца. Але аб усім па парадку.*

Калі ў дзверы пазванілі, я ледзь знайшла ў сабе сілы, каб устаць з ложка і пайсці адчыніць.

— Хто там? — спытала слабым дрыготкім голасам.

Замест адказу пачула, як моцна, з надрывам кашляе жанчына. Ад слабасці я не магла больш стаяць і адчыніла дзверы. За парогам убачыла маладую худзенькую жанчыну з гаспадарчай сумкай у руках. Чорныя бровы, чорныя валася і белы, змучаны твар.

— Я медсястра з Чырвонага Крыжа. Вашы суседзі пазванілі нам і сказалі, што Вы адзінокая, хварэеце і маеце патрэбу ў дапамозе.

— Дзякую, дачушка, але ці варта клапаціцца? Жыць мне засталося нядоўга. Ды і не хачу жыць, — сказала я, сеўшы на крэсла ў прыхожай. Запрасіла сесці і яе. Але маладзіца, якая назвалася Русланай, не села. Яна распранула сваё таннае паношанае паліто і ўзялася за справу. Памерала мне ціск, зрабіла нейкі ўкол, потым дапамагла дайсці да ложка.

— Ці елі вы сёння? — спытала з цеплынёй і клопатам.

— Не ела і не хачу... Нічога я ўжо не хачу... — мяне душылі слёзы, і я заплакала горка, наўзрыд, як плачуць па дарагім нябожчыку. Безвыходнасць, адзінота і сум былі ў тых слязах.

Яна падцягнула да ложка крэсла, села і, узяўшы маю руку ў свае пяшчотныя цёплыя далонькі, ціха гладзіла. Выплакаўшыся, я расказала ёй пра сваю гаротную долю, а потым непрыкметна заснула..

Калі прачнулася, то пачула, што на кухні прыемна пахне свежай стравай. Падлога была памыта, у кватэры наведзены ўзорны парадак. Руслана ўбачыла, што я расплюшчыла вочы, і адразу прапанавала:

— Зараз я вас пакармлю, потым згатую вячэру і пайду. А заўтра зноў забягу.

Яна проста сілай карміла мяне, бо ежа ў рот не лезла. Потым дапамагла памыцца, памяняла пасцельную бялізну.

Руслана прыходзіла кожны дзень, і ў маім сэрцы пачаў раставаць лёд адзіноты. Я папravілася і ўжо сама магла гатаваць ежу, а праз месяц выходзіла ў магазін, які быў на першым паверсе нашага шматпавярховага дома.

Аднойчы заўважыла, як мая памочніца тайком выцірае слёзы. Крышыць капусту на салат, а сама плача.

— Што здарылася, Русланка? — занепакоілася я і ў думках папракнула сябе за эгаізм: яна мне душу аддае, а я нават ні разу не пацікавілася, дзе і як жыве, ці ёсць у яе сям'я?

— Ат, не зважайце, — махнула яна худзенькай рукой, да якой прыліплі крышанчыкі капусты. — Проста найшло нешта.

— Не, міленькая, расказвай.

Я забрала ў яе нож і сама пачала крышыць качан, а яна, спаласнуўшы рукі, апусцілася на табурэтку і прызналася:

— У мяне безвыходнае становішча. Мы з мужам і з маленькім сынам жылі на прыватнай кватэры. Потым цяжка захварэла мая мама, якая жыла ў вёсцы. Прыйшлося забраць да сябе, бо я ў яе адзіная дачка, а тата памёр даўно. Вельмі баялася, што гаспадыня выганіць з кватэры, бо і дзіця малое, і ляжачая нямоглая мама. Але нічога, гаспадыня змірылася, а вось муж мой знайшоў сабе другую сям'ю. Сабраў рэчы і пайшоў. Так мы пражылі яшчэ чатыры гады. А нядаўна з турмы вярнуўся гаспадынін сын і заявіў, каб праз тыдзень і духу нашага там не было. Маўляў, ён будзе жыць, і яму патрэбна жыллё. Гаспадыня толькі ў роспачы разводзіць рукамі, бо ведае, што яе чакае. Сын злосны і пануры, ды і жонку такую ж сабе знайшоў. Прыводзіў ужо знаёміцца. Абодва п'яныя, слова прыстойнага ад іх не пачуеш...

Расказвае, а ў самой слёзы так і цякуць.

— То чаго ты так убіваешся, галубка? — пытаю. — Перавозь да мяне сваю маму і сыночка, ды будзем жыць разам. Бачыш жа, якая ў мяне вялікая кватэра. Навошта мне адной столькі? Вы там гаруеце, я тут, а разам будзе лягчэй.

— Што вы?! — здзівілася маладзіца. — У вас такая шыкоўная кватэра. Я ледзь за тую магла заплаціць, а за гэту і падаўна не здолею.

— А ніякай платы і не трэба. Жывіце так. Дагледзіш мяне да смерці, то ўсё табе і тваім сыночку застанецца. Я загадзя пра гэта паклапачуся. Да натарыуса сходзім, каб усё было па законе.

— Не, я такога царскага падарунка не прыму. Ды ў вас і дачка ёць.

— Але ж яна мяне ненавідзіць, не прызнае!

— Хто ведае, як яно далей будзе, — няпэўна сказала Руслана.

Праз некалькі дзён у маёй хаце павесялела. Русланіна мама, якая была прыкавана да ложка цяжкай хваробай, аказалася жанчынай культурнай і прыстойнай. А маленькі Дзімка з белай галоўкай і чорнымі, як у мамы, броўкамі, нагадваў маленькае ласкавае сонейка. Калі Руслана ішла на працу, мы з ім даглядалі хворую бабку, хадзілі ў магазін, гатавалі ежу. Руслана хацела аддаць малога ў дзіцячы садок, што знаходзіцца побач з нашым домам, але я не згадзілася: хіба ж не дагледжу яго сама?

...І пакаціліся нашы дзянёчкі, як коціцца ў рэчцы вада. Жылі мы дружна, нібыта родныя людзі. Я не раз і не два нагадвала Руслане, што трэба схадзіць да натарыуса і аформіць кватэру на яе, але маладая жанчына спасылалася на занятасць і ўсё адкладвала. А аднойчы сказала:

— Мне трэба на два дні адлучыцца па вельмі важнай справе. Ці зможаце тут без мяне?

— Чаму ж не! — я адчувала сябе зусім здаровай і спраўлялася з усялякай хатняй работай.

Яна вярнулася на другі дзень, пад вечар. Сваім ключом адчыніла дзверы. Увайшла ў калідор і з некім загаварыла. Я выйшла паглядзець, хто б гэта мог быць. Побач з ёй стаяла... мая родная дачушка, мая крывіначка! Гэта да яе ў Маскву ездзіла Руслана. Не ведаю, якія словы яна знайшла, як дастукалася да сэрца маёй Танечкі, але ўгаварыла яе прыехаць.

Я стаяла і не магла паварушыцца. А яна, накульгваючы на адну ножку, падышла і працягнула мне букецік васількоў. Былі яны такія блакітныя, такія пяшчотныя, як і вочы маёй дачушкі.

Я апусцілася перад ёй на калені і, цалуючы рукі, паўтарала толькі два словы:

— Даруй, Танечка, даруй, Танечка...

З маіх вачэй каціліся слёзы, а душа перапаўнялася шчасцем — васількі мне прывезла! Маленькая ж была, як я яе кінула, а памятае, што самыя любімыя мае кветкі — сціплыя палявыя васількі...

Дачка дапамагла мне ўстаць, і мы з ёй пайшлі ў залу, селі на канапу. Абняліся і плакалі чыстымі гаючымі слязамі, якія змываюць з душы цяжар адзіноты, боль расстання.

Цяпер я збіраюся ў Маскву, каб пазнаёміцца з унучкамі-блізнятамі і з зяцем. А наша дарагая Руслана збіраецца замуж.

Мы размяняем маю шыкоўную кватэру на дзве меншыя, і адну я падару ёй. Такое рашэнне падказала мая родная дачушка. Ды што там казаць, цяпер яны абедзве мне родныя.

**З пашанай —**

**Марыя Міхайлаўна.**

**Падрыхтавала Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

ТЕМА ДНЯ

# Нефть и газ — мимо нас

**Последние важные события в газонефтяной сфере, которые происходят по соседству, явно не на пользу нашей стране. Беларусь оказывается на обочине судьбоносных решений.**

СМИ сообщили, что украинское правительство решило использовать нефтепровод "Одесса—Броды" для транспортировки каспийской нефти прямо в Европу. Тем самым Украина отказалась от предложения российско-британской компании ТНК-ВР использовать эту магистраль для перекачки российской нефтяной смеси Urals в режиме реверса — из Брод в Одессу.

Нефтепровод "Одесса—Броды" является частью Евроазиатского нефтетранспортного коридора (ЕАНТК) Одесса—Броды—Плоцк—Гданьск. В ближайшие несколько лет Украина и Польша собираются достроить нефтепровод до польского города Плоцк. До этого нефть планируют доставлять из Брод в Плоцк по железной дороге.

Это решение было принято после многомесячных дискуссий о направлении транспортировки нефти. Би-Би-Си отмечает, что основных предложений было два. В минувшем году ТНК-ВР выразила готовность поставить 380—420 тыс. тонн российской нефти сорта Urals в виде товарного кредита на три года для заполнения трубы, а также обеспечивать до 9 млн. тонн нефти в год для прокачки из Брод в Одессу. Из Одессы эту нефть планировали отправлять танкерами через Босфор. Американская компания Chevron предложила Украине транспортировку каспийской нефти по нефтепроводу Одесса — Броды в прямом направлении уже в нынешнем году. Обосновывая выбор украинского правительства в пользу прямого использования нефтепровода, его министр Сергей Ермилов подчеркнул, что при принятии решения на первом месте были экономические соображения.

Между тем эксперты считают, что это сильно не понравится России. Они предполагают, что на недавней встрече в Киеве с президентом Украины Владимир Путин убеждал его воспользоваться предложением компании ВР-ТНК. Украинские политики и эксперты прогнозируют, что отказ Украины от предложения ТНК-ВР вызовет негативную реакцию России.

Следует отметить, что в рамках недавнего визита на Украину президента России Владимира Путина достигнута договоренность о проведении в начале февраля трехсторонней встречи с участием Германии по созданию газового консорциума.

Владимир Путин со своей стороны заявил, что работа по созданию консорциума продвигается успешно. "Может быть, это тот случай, когда спешка была бы неуместной", — сказал он. По его словам, сейчас вопросы по газотранспортному консорциуму отрегулированы, "в текущей работе специалисты спорят", но это является нормальным в условиях конкуренции. В то же время накануне визита Путина в Киев ответственный сотрудник кремлевской администрации Сергей Приходько отметил, что "рождение газотранспортного консорциума происходит со скрипом". Однако, добавил он, "мы не драматизируем эту проблему, поскольку это очень важный и сложный вопрос". Он также заявил, что "от того, как мы определим параметры сотрудничества в рамках консорциума, зависит работа предприятия в ближайшие 10—20 лет". Объясняя причины паузы в работе по созданию консорциума, Приходько отметил, что "германская сторона не потеряла интереса к этому проекту". "Они ждут, когда мы договоримся с Киевом".

Следует заметить, что Россия намеревается строить трубопровод по дну Балтийского моря. Три этих потока энергоносителей основательно меняют схему их транспортировки вблизи Беларуси. К сожалению, важные потоки обходят нас стороной. Министр иностранных дел Ирана Камаль Харрази, который в Киеве обсуждал проблемы транспортировки каспийской нефти в Европу, не счел нужным заехать в Минск, хотя ранее это планировалось. Его визит в Беларусь "по техническим причинам перенесен на более поздний срок". А ведь в ходе визита предусматривалось обсуждение торгово-экономических вопросов.

Оценивая возможности закупок белорусами иранского газа, который пойдет через территорию Украины, экономист Валерий Дашкевич в интервью "Белорусским новостям" отметил, что в принципе это возможно. Однако в нынешнем своем состоянии белорусский участок газопровода просто не приспособлен для того, чтобы перекачивать газ с юга. Конечно, при необходимости газопровод можно модернизировать соответствующим образом. Но, по мнению В.Дашкевича, это вряд ли реально, поскольку российский газовый гигант этому воспротивится — ему ведь самому нужно качать газ в Европу, да и будет ли "труба" к тому времени белорусской собственностью — вопрос очень спорный.

Словом, сверхсильная привязка к российскому "Газпрому" выталкивает страну на обочину при транспортировке энергоносителей и создает проблемы при их получении.

**Сергей ИВАНОВ.**

ФАКТ И КОММЕНТАРИЙ

# Для чего существует правительство?

*Информационное агентство БелТА на днях сообщило:*

*"Из 16 прогнозных показателей социально-экономического развития Беларуси в 2003 году выполнены 14. Главным результатом работы народного хозяйства стало улучшение качественного роста экономики. Об этом заявил премьер-министр Сергей Сидорский на заседании Совета министров.*

*Он отметил, что прирост валового внутреннего продукта в прошлом году составил 6,8%, что на 0,3% выше установленного прогноза. Укрепилась положительная динамика роста производства в промышленности, в привлечении инвестиций. Достигнуты установленные параметры роста производства в сельском хозяйстве, включая растениеводство.*

*Сергей Сидорский также подчеркнул, что снизилось количество убыточных предприятий с 41% в начале 2003 года до 33% в конце. Складские запасы сократились до уровня 59%. Премьер-министр также отметил, что за 2003 год в стране был отмечен самый низкий за последние 10 лет уровень инфляции. Его среднемесячное значение составило 1,9%, по году — 25,4%. Вместе с тем загнать инфляцию в планируемые рамки не удалось, поскольку по прогнозу ее уровень не должен был превысить 24%. Средняя заработная плата в 2003 году составила 245 тыс. рублей, что на 31% выше, чем в предыдущем году. Однако параметры роста реальных денежных доходов не выполнены. Они составили 103% вместо 106—106,5% по прогнозу".*

Словом, выполнение и перевыполнение, не справились лишь с двумя показателями из 14. Да, провалены только два, но зато какие! Ведь для чего существует правительство? Его народ нанимает для того, чтобы оно делало все возможное для улучшения жизни людей. Для чего нам нужна промышленность и сельское хозяйство? Да для того же самого — для повышения благосостояния народа. Но именно этот, по существу, главный показатель — рост реальных денежных доходов трудящихся — и не выполнен. То есть правительство не выполнило главную задачу и при этом еще выхваляется перевыполнением заданий по приросту валового внутреннего продукта, сокращением убыточных предприятий... Но кому это все надо? Тот же прирост выпуска продукции делается ради одной главной цели — повысить зарплату трудящимся и на этой основе улучшить их жизнь. Если же при росте выпуска продукции не происходит улучшения жизни народа, то не понятно, ради чего вообще работают заводы, фабрики, колхозы, совхозы? Перед любым правительством всегда стоит одна важнейшая задача, о которой сказано выше, — повышать благосостояние народа. Похоже, у белорусских чиновников на этот счет иное мнение.

Конечно, нам могут возразить: "Так ведь средняя зарплата в прошлом году выросла аж на 31 процент по сравнению с годом предыдущим. Дескать, читайте внимательно наше сообщение". Именно внимательное чтение и породило наш комментарий. Да, средняя зарплата, по вашим утверждениям, увеличилась на 31 процент. А насколько выросли коммунальные платежи, цены на товары и продукты? Вот где собака зарыта. Если все это суммировать, то реального улучшения не видно. Не замечают его ни граждане, ни независимые экономисты.

Провален и второй важнейший показатель — по снижению инфляции. А она ведь тот самый зверь, который не дает экономике успешно развиваться.

Уважаемые члены правительства! Может, не надо столько параметров и показателей? Давайте вместо 16 оставим лишь один — повышение реальных доходов населения — и будем работать только над его выполнением. Люди вам скажут только спасибо.

К сожалению, на том же совещании поставлена прежняя задача. Вот сообщение БелТА:

"Определяя задачи на 2004 год, глава правительства отметил, что предстоит сосредоточить основное внимание на недостатках, которые не удалось преодолеть. Сергей Сидорский подчеркнул, что есть все основания для выполнения поставленной задачи: увеличить в 2004-м по сравнению с 2003 годом объемы ВВП и промышленной продукции на 9—10%".

А насколько вырастут наши доходы и вырастут ли вообще — это как бы дело второстепенное. А ведь это главное!

**Алесь ДРАБЧУК.**

## «Росэнергоатом» не будзе пастаўляць у Беларусь электраэнергію

Расійская кампанія "Росэнергоатом", якая аб'ядноўвае ўсе атамныя электрастанцыі ў Расіі, не будзе пастаўляць электраэнергію ў Беларусь, паколькі Украіна прапанавала Беларусі больш нізкую цану.

Пра гэта на прэс-канферэнцыі ў Маскве заявіў кіраўнік кампаніі Алег Сараеў.

Нагадаем, што на люты 2004 года канцэрн "Белэнерга" не заключыў ні аднаго кантракта на куплю электраэнергіі, паколькі РАТ "ЕЭС России" павысіла адпускную цану электраэнергіі на 28 працэнтаў з пачатку года.

Паводле слоў А.Сараева, Украіна гатова пастаўляць электраэнергію ў Беларусь па цане 1,6 цэнта ЗША за кілават, у той час як экспартная цана расійскай электраэнергіі не можа быць ніжэй за 2,15 цэнта за кілават. "Мы страцілі гэты дагавор з Беларуссю. У іх ужо было ўяўленне аб цане куплі на Украіне, так што нам было лёгка разысціся", - сказаў А.Сараеў.

Саветнік старшыні канцэрна "Белэнерга" Уладзімір Кардуба паведаміў БелаПАН, што ў канцэрна не было ніякіх праектаў аб куплі электраэнергіі ў "Росэнергоатома". "Гэтыя паведамленні адносяцца, мабыць, да сферы фантазій", - сказаў У.Кардуба.

Паводле слоў саветніка кіраўніка "Белэнерга", Беларусь мае магчымасць забяспечваць сябе сваёй электраэнергіяй, павялічыўшы спальванне топачнага мазуту.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

SOS!

# Беловежская наука в огне

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Местные жители, как индивидуально, так и коллективно, писали уже не одно письмо с тревожными сигналами в различные государственные инстанции, включая президента РБ. Однако, никаких действенных мер по изменению ситуации до сих пор так и не принято. Например, после публикации год назад разоблачительных фактов незаконной подпольной вырубки живого старовозрастного элитного леса и деревьев-великанов на охраняемой территории ни один чиновник даже "пальцем не пошевелил", чтобы проверить имеющиеся факты у непосредственных очевидцев данного экологического деяния. Хотя кое-кто публично и в прессе заявлял о "тщательной проверке всех фактов и информации". Да и президент, если верить народной молве, во время посещения Беловежской пущи в 1997 году на предложение одного из своих подчиненных расширить вертолетную площадку для более безопасного приземления ответил, что "если хоть одно живое дерево будет спилено, то лесник сразу же будет снят с должности". Более того, весной прошлого года на защиту пущи поднялась международная общественность, и по инициативе российских и украинских природоохранных организаций на имя президента и министра природных ресурсов и охраны окружающей среды была проведена факсовая кампания протеста против нарушения законодательства и уничтожения реликтового леса Беловежской пущи. В это же время в качестве одного из ответов на эти требования директору нацпарка продлили контракт на следующий срок (!?).

У местных жителей уже давно сформировалось убеждение, что периодические проверки вышестоящей инстанции проводятся не с целью выявления недостатков в работе и наведения порядка в нацпарке, а с целью прикрытия безобразий и нарушений нынешней администрации. Да и будет ли своя рука сама себя сечь-наказывать? В то же время другие сторонние инстанции и госорганы, по неофициальной информации их же сотрудников, имеют весьма ограниченный доступ на территорию, либо вообще не имеют его.

В такой ситуации и при всех вышеперечисленных фактах создается впечатление, что руководители Беловежской пущи не являются гражданами Беларуси, а относятся к некой особой, с юридической точки зрения, "касте неприкасаемых", на которых законодательство не распространяется, а значит, можно безнаказанно осуществлять экологический, экономический социальный произвол и авантюризм и оставлять после себя покалеченную заповедную природу.

Уважаемый Александр Григорьевич! Обращаюсь к Вам как к президенту, как к государственному лицу, обязанному стоять на страже закона. Не верю, что Вы не знаете о том, что происходит в Беловежской пуще. На этот счет Вам было адресовано немало информации. Да и административных ресурсов у Вас предостаточно, чтобы, при желании, объективно проверить факты, выяснить истину и прекратить глумление над уникальным Беловежским краем и его населением. Почему же этого до сих пор не сделано? Я далек от мысли, что в этой катастрофической для пущи ситуации Вы находите лично для себя какую-то выгоду. Поэтому нельзя же, даже чисто по-человечески, так безразлично и безучастно относиться к судьбе национальной святыни и наследия человечества.

В последнее время по телевизору в рекламе только и слышно: "Беловежская пуща — мир первозданной природы!". Александр Григорьевич! Спросите у любого туриста, что он видел в Пуще после ее посещения. Вам ответят: "Мир пней и бревен". Так, может быть, уже настала пора действительно принести на беловежскую землю долгожданный мир природе и людям!?

**Георгий КОЗУЛЬКО, кандидат биологических наук.**

*пос.Каменюки, Беловежская пуща.*

**ОТ РЕДАКЦИИ.**

*Знаем: Георгий Козулько — один из тех, кто открыто выступает против безграмотного вторжения в природу Беловежской пущи. Надеемся, его сегодняшнее обращение дойдет до А.Г.Лукашенко. Если у оппонентов Г.Козулько есть весомые контраргументы, — пожалуйста, страницы "Народной воли" для продолжения дискуссии.*

АСОБА

*Славамір АДАМОВІЧ:*

# «Жыць нефальшыва»

*Дзённікавыя запісы Славаміра Адамовіча "ЛІСТЫ З ПОЎНАЧЫ", надрукаваныя ў некалькіх нумарах "Нашай Нівы" напрыканцы мінулага года, — гэта не толькі споведзь неардынарнага чалавека, самабытнага паэта, заўзятага эмагара за справядлівасць, дабро, за беларушчыну, але і абагульнены боль соцень і тысяч маладых беларусаў, якія змушаны сёння пакідаць сваю Бацькаўшчыну і шукаць лепшай долі за яе межамі.*



...Са Славамірам я пазнаёміўся асабіста, калі ён ужо стаў сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў. А да гэтага шмат чуў пра яго на шматлікіх мітынгах апазіцыі. Тады ён сядзеў у турме за верш, які прыйшоўся не даспадобы звышпільным чыноўнікам і якія ў кожным вольным слове шукалі крамолу. У знак пратэсту супраць удушэння дэмакратычных парасткаў у грамадстве, здзеклівага стаўлення да нацыянальных каштоўнасцяў Славамір Адамовіч трымаў за кратамі працяглую галадоўку. Жыццё ягонае ліпела на валаску. Але ён не скарыўся. Дзякуючы сябрам і шырокаму розгаласу ў прэсе, заступніцтву многіх вядомых людзей у Беларусі і за яе межамі Славаміра выпусцілі на волю. Змушаныя былі выпусціць.

Але і воля без упэўненасці ў заўтрашнім дні, у хранічным безграшоўі і марным пошуку прыстойнай працы, у расчараванні многім і многімі, чаму і каму раней давяраў, змусілі Славаміра на адчайны крок — з'ехаць куды найдалей, у дадзеным выпадку у Нарвегію.

Аднак ад сябе, ад думак сваіх нікуды не ўцячэш. І вось — дзённікі, ужо адтуль, з суровай і экзатычнай для беларусаў краіны. Да гэтага ў Славаміра былі ўжо дзённікі — турэмныя. Божа, колькі ў іх горкай і суровай праўды пра антычалавечую, смуродную атмасферу рэпрэсіўнай сістэмы!

Мне пашчасціла аднаму з першых чытаць тыя, часта крывёю пісаныя, радкі Славаміра Адамовіча, бо ён, рыхтуючы "Турэмны дзённік" да выдання, даверыў мне быць ягоным рэдактарам. Шкада, што кніжка выйшла малым накладам — аўтар выдаў яе за свой кошт. А добра было б, каб яе пачытала як мага большая аўдыторыя.

Прапаную чытачам "Народнай волі" верш Славаміра Адамовіча, дасланы мне з Нарвегіі, які яшчэ нідзе не друкаваўся.

**Алесь РЫБАК.**

***

*Славамір АДАМОВІЧ*

*Трохі напісана, многа пражыта...*
*Простая ісціна: спела б жыта,*
*з якога мучыцы, а потым хлебца;*
*агонь у печы — з марозу пагрэцца.*

*Простая ісціна: дзіўныя словы*
*ты выбіраеш з невада мовы,*
*са словам жывеш, адыходзіш са словам*
*з іншымі светамі на перазовы.*

*Слухаюць нас і пустэльні, і тоні...*
*Словам клянёмся і словам баронім.*
*Простая ісціна: жыць нефальшыва,*
*без перабору, крышку гулліва.*

*Глянь, як гуляе дзіця тваё з мамай,*
*не перашкодзь яму лішнім стограмам.*
*Вунь як дачушка цябе абдымае,*
*хутка ўжо, хутка яна пакахае;*
*будзе нудзіцца, смяяцца і плакаць,*
*вершы, як тата, употай калякаць,*
*потым да шлюбу пойдзе шчаслівa...*

*Простая ісціна: жыць нефальшыва.*
*Ну, а калі закарціць падфальшывіць,*
*д'яблавы служкі уборы пашыюць*
*і супакояць, і провады справяць,*
*потым на чортавым коле праславяць.*
*І застанешся ты ў памяці ўнукаў*
*тым, хто жыццё сваё д'яблу прафукаў.*

